беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 г. у Вільні. Адноўленая тамсама ў 1991 г. як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску штотыднёва

# НАША НІВА

КУЛЬТУРА, ПАЛІТЫКА

выходзіць у панядзелкі

№ 19 (57)
5 чэрвеня 1996 г.
панядзелак

ТЭЛЕПРАГРАМА

БІРЖА ПРАЦЫ

## Калпашава

Спэцыяльны рэпартаж з Томскай вобласьці пра страшны лёс тысячаў беларусаў, якія былі абвешчаныя «ворагамі народу», высланыя ў Сібір і назаўсёды засталіся там.

"Надзвычайны выпадак адбыўся вясной 1979 году. Вясна вызначалася вялікай паводкай, і ў выніку апоўзьняў пасыпаліся чалавечыя чарапы й косьці з аголенага масавага пахаваньня. Першаадкрывальнікамі былі дзеці. Яны падбіралі чарапы, гулялі зь імі, бегалі па горадзе з чарапамі на палках, прыносілі іх дадому.

Абвал 30 красавіка агаліў вялізную яму з муміфікаванымі трупамі. Многія зь іх захаваліся выключна добра. Калі чарапы й косьці перытвараліся ў мешаніну пры абвале берагу і адразу ж ішлі на дно, то лёгкія муміфікаваныя парэшткі ўсплылі, і рака несла іх на поўнач на вачах ўсяго гараду..."

*Старонка 3.*

## Прагноз

Карэспандэнт «Нашай Нівы» зьвярнуўся да некалькіх вядомых беларускіх журналістаў з просьбай адказаць на наступныя пытаньні: «Якім чынам сёлета ўвосені можа скончыцца супрацьстаяньне паміж парлямэнтам і прэзыдэнтам?» і «Ці магчымыя масавыя сутыкненьні рабочых зь сіламі правааховы?»

*Адказы — на старонцы 2.*

## Міжнародны агляд

Няўдачы на ўсходзе змусілі беларускае кіраўніцтва зірнуць у супрацьлеглы бок... Камэнтар да паездкі прэм'ера М.Чыгіра на Эўрапейскі эканамічны форум у Зальцбургу — на старонцы 4.

## Promenade

Сьцягі над байдаркамі. Штогадовая рэдакцыйная водная вандроўка «НН», гэтым разам — па Ашмянцы. Расповед на старонцы 13.

## Літаратура

Зборнік вершаў Усевалада Гарачкі ў газэтнай вэрсіі і новае апавяданьне Уладзімера Сьцяпана «Цырульнік» — на старонках 14-15.

# Амэрыканскае лета



*Лідары Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык зьвярнуліся да ўладаў ЗША з просьбай аб палітычным прытулку. Наш камэнтар — на старонцы 2.*

К А М П У Т А Р

# Беларусь віртуальная,

## *альбо спроба знайсьці Радзіму там, дзе яе быць не павінна*

Калі ў беларускім і замежным друку зьявіліся паведамленьні пра тое, што прэзыдэнт РБ мае намер забараніць ці абмежаваць выхад да глябальнай сыстэмы інфармацыі Internet, перад мною паўстала пытаньне: наколькі балючая будзе такая забарона для беларускага грамадзтва? І я вырашыў знайсьці на World Wide Web («Сусьветная Павуціна»), інтэрнэтаўскай сыстэме, якая працуе паводле прынцыпу гіпэр-тэксту, тыя хоўм-пэйджы (разьдзелы), якія так ці йнакш зьвязаныя зь Беларусяй.

Уласна ў Беларусі я выйшаў толькі на адзін хоўм-пэйдж. Ён належыць Беларускай Акадэміі Навук. Яго дакладны адрас (URL, universal resource locator):
http://www.bas-net.by/

Што можна прачытаць у гэтым разьдзеле? Нічога асаблівага. Адрасы інстытутаў Акадэміі, чым яны займаюцца (у трох словах), можна знайсьці інтэр'еры акадэмічных лябараторыяў. І нічога болей.

*Працяг на старонцы 16.*

РАСЕЯ — ЗБЛІЗКУ

# «Я ня веру, але я праваслаўны»

*Артыкул зь фінскай газэты «Suomen Kuvalehti»*

Калі ў 1989 годзе царква актыўна ўварвалася ў жыцьцё савецкага народу, то, здавалася, гэта знак часу, які натуральна спадарожнічае краху камунізму і абяцае маральна аздаравіць грамадзтва. Але вельмі хутка давялося канстатаваць, што гэтая новая мода прывяла ва ўлоньне расейскай праваслаўнай царквы мноства людзей, зусім для гэтага непрыдатных.

Увесь сьвет ведае пра своеасаблівае супрацоўніцтва Маскоўскай Патрыярхіі з КГБ. Пра гэта сьведчаць дакумэнты як з архіваў КПСС, так і з архіву 4 аддзелу 5-й — ідэалягічнай — управы КГБ. Ды й самі сьвятары гэтага ня ўтойваюць. «Мы вінаватыя ўсе, безь якога-небудзь выключэньня. Нас, сьвятароў Маскоўскай Патрыярхіі, дабраслаўлялі на пасаду афіцэры КГБ. Можа, мы ня ведалі гэтага? Дык няўжо яшчэ знойдзецца хтосьці, каму невядома, што аддзел зьнешніх царкоўных зносінаў (47 вышэйшых дзеячоў расейскай праваслаўнай царквы) зьверху данізу быў філіяй КГБ?» Гэтае прызнаньне зрабіў айцец Г.Эдэльштэйн у рэдакцыі газэты «Столица» ў лютым 1992 году.

«У нашым аддзеле ў кожнага быў свой куратар з КГБ. Да самага апошняга часу ў аддзеле працавалі супрацоўнікі дзяржбясьпекі, і іх кабінэты знаходзіліся побач з кабінэтам старшыні. Старшыня ж (цяперашні мітрапаліт Смаленскі і Калінінградзкі Кірыл) супрацоўнічаць з КГБ быў абавязаны з-за пасады. Практычна ўсе супрацоўнікі аддзелу, ад швэйцара да старшыні, былі агентамі КГБ. І я таксама. Мяне завербавалі ўжо ў сэмінарыі». Гэтае прызнаньне зрабіў дыякан А.Рыбін, які працаваў у аддзеле зьнешніх царкоўных зносінаў у 1985-1991 г. У расейскім і замежным друку былі названыя мянушкі агентаў КГБ: Адамант, Антонаў, Абат, Астроўскі, Тапаз, Міхайлаў — за імі хаваюцца вышэйшыя духоўныя асобы Маскоўскай Патрыярхіі: мітрапаліты Пітырым, Філарэт, Ювэналій, Кірыл, Сэрапіён, Мяфодзій.

*Працяг на старонцы 4.*

# Біенале фотамастакоў у Бэльгіі

Нядаўна на старонках «Нашай Нівы» паведамлялася пра пасьпяховы ўдзел беларускіх фотамастакоў (Андора. Манахромная фатаграфія. 20 месца) у афіцыйным конкурсе фатаграфічнай творчасьці краін, якія ўваходзяць у міжнародную арганізацыю FIAP (Federation Internationale de L'art Photography). Усяго ў FIAP 78 краінаў сьвету. У чэрвені 1993 г. на чарговым кангрэсе FIAP Беларусь таксама стала паўнапраўным сябрам гэтай арганізацыі, адзінай у сваім жанры, якая адзіная прызнана і падтрымліваецца UNESCO. Нашу краіну прадстаўляе Беларускі клюб мастацкай фатаграфіі. І вось з сакратарыяту FIAP зноў атрыманы выніковыя матэрыялы і каталёг 8-га біенале, якое адбылося ў Бэльгіі. У конкурсе за кубак FIAP кожная нацыянальная калекцыя была прадстаўленая 10 аўтарамі па адной фатаграфіі, выкананай у колеры ці манахроме. Калекцыя Беларускага клюба мастацкай фатаграфіі зноў аказалася ў «залатой сярэдзіне» — 19 месца.

На выставе ў Брусэлі экспанаваліся фатаграфіі і слайды менскіх аўтараў Георгія Ліхтаровіча, Міхаіла Гаруса, а таксама маплеўцаў Васіля Цітова, Генадзя Карчэўскага, Эндрыкаса Юшкі, Анатоля Талкачова, Мікалая Хацянцава, Мікалая Панцялеева, Уладзімера Ямцова, Аляксандра Мацьвеенкі і Таццяны Мікалаевай. У ілюстраваным каталезе апублікавана пэйзажная фатаграфія «Лета» Т.Нікалаевай. Гэтая праца ўвайшла таксама ў лік рэпрадукцый на слайдавай сэры з 100 штук, якую арганізатары выставы (Бэльгійская фэдэрацыя фотамастакоў) падрыхтавалі для паказу ў краінах, што ўваходзяць у FIAP.

Па выніках біенале кубак заваявалі фотамастакі Бэльгіі, пацьвердзіўшы тым самым яшчэ раз права называцца вядучай фатаграфічнай арганізацыяй у сьвеце FIAP.

Сеньня ідзе падрыхтоўка да аналягічных кубкавых выставаў FIAP, якія пройдуць у верасьні ў Турцыі і Ірляндыі, куды запрошаны для ўдзелу і беларускія фотамастакі.

**Васіль Цітоў**



Здымак Васіля Цітова

*1 міжнародны фотапленэр у Ляўках на Дняпры, які сёлета адбыўся ў рамках фэстываля «Магутны Божа» і быў арганізаваны Беларускім клюбам мастацкай фатаграфіі.*

# навіны 1-м сказам

навіны 1-м сказам

**АБАРОНА.** Міністэрства гандлю Беларусі вырашыла на 50% павялічыць гандлёвую нацэнку на імпартовыя тавары з мэтай абароны айчынных вытворцаў, што ня могуць рэалізоўваць сваю прадукцыю з прычыны занізкай якасьці ды завысокага кошту.

**БОІНГ.** Група, якая расьсьледуе катастрофу пасажырскага самалёту амэрыканскай кампаніі TWA, знайшла месца знаходжаньня кабіны пілётаў, што дазволіць атрымаць дадатковую інфармацыю пра прычыны выбуху.

**ЗАБОЙСТВА.** У Алжыры ісламскія фундамэнталісты ўзарвалі бомбу і забілі каталіцкага біскупа гораду Аран П'ера Клявэры і яго кіроўцу.

**ВЫКРАДАНЬНЕ.** У Грозным невядомыя асобы выкралі двух сяброў францускай гуманітарнай арганізацыі — ангельца і француза.

**ЯПОНЧЫК.** Фэдэральны суд Брукліну, што ў Нью-Ёрку, прысудзіў «хроснага бацьку» расейскай мафіі ў ЗША да 14 гадоў турмы.

**СТРАЙК.** Працягваецца страйк шахцёраў расейскага Прыморскага краю; яны патрабуюць выплаты заробкаў, якіх не атрымлівалі ўжо паўгады.

**ІЗРАІЛЬ.** Ізраільскі ўрад адмяніў забарону на будаўніцтва новых паселішчаў на заходнім беразе ракі Ірдан, заявіўшы, праўда, што пакуль няма плянаў адносна аднаўленьня такога будаўніцтва.

**ФЭМІДА.** Былы афіцэр СС Эрых Прыбкэ, які атрымаў апраўдальны прысуд у рымскім судзе, нягледзячы на яго ўдзел у расстрэле 335 італьянскіх закладнікаў, зноў арыштаваны і будзе выдадзены Нямеччыне для новага суда.

**ПАНКІ.** Спроба панкаў з усяе Эўропы зноў правесьці дні хаосу ў г. Брэмэне, закончылася пагромамі й бойкамі з паліцыяй, але не такімі буйнамаштабнымі, як летась у Гановэры.

**ПОМНІК.** У Траецкім прадмесьці ў Менску, на Востраве Сьлезаў пасярод Сьвіслачы быў урачыста адкрыты помнік у памяць палеглых у Афганістане беларускіх хлопцаў.

# Калпашава

*... яны выходзілі літаральна з-пад зямлі — сотні трупаў зь дзіркай у патыліцы...*



Падзеі, якія непасрэдна паслужылі да напісаньня гэтага артыкулу, адбыліся ў 1979 годзе ў невялікім мястэчку Калпашава Заходне-Сібірскага краю (цяпер Томская вобласьць РФ) напярэдадні чырвонага Першамая і ў наступныя за ім дні. За жудаснай фантасмагорыяй, у кола якой былі ўцягнутыя жыхары мястэчка, з усёй грознай выразнасьцю праглядаў рэальны сэнс гэтых падзеяў. Сама страшная гісторыя, якую на дзесяцігодзьдзі схавалі ад людзей і быццам бы ўжо забылі, раптам выйшла на паверхню сотнямі і тысячамі муміфікаваных трупаў...

У нас, у Беларусі, пакуль мала што вядома пра лёсы нашых суграмадзянаў, якія былі закінутыя ў сібірскую далеч і назаўсёды засталіся там...

Мястэчка Калпашава да нядаўняга часу было мала вядомае. У памяці не аднаго пакаленьня захавалася іншае слова: Нарым. Калпашава — калісьці адміністрацыйны цэнтар Нарымскай акругі, адмысловай тэрытарыяльнай адзінкі ў складзе краю, адведзенай для зьнішчэньня «ворагаў народу».

Калпашава — сібірскія Курапаты. З усяго былога Савецкага Саюзу, у прыватнасьці, з Алтаю, зь Беларусі і Ленінграда звозілі сюды «ворагаў народу» і іх сем'і. Найболей — сялян. У непралазнай балотнай тайзе, якую яны карчавалі з дапамогаю першабытных прыстасаваньняў, ляжаць нашы землякі. У часы калектывізацыі ў Нарымскую акругу высылаліся раскулачаныя беларускія сем'і. Пра маштабы гэтай высылкі сьведчыць лічба — 192 тысячы чалавек (нашых землякоў сярод іх было ня менш за 35 тысяч), прычым колькасьць тых, хто выжываў у часе першых двух-трох гадоў, складала, верагодна, каля 40 працэнтаў. Апошняя лічба ашаламляе, але не забывайцеся, пры якіх абставінах спэцперасяленцы патрапляді ў ссылку: альбо па зімніках, або, як было часьцей, — на баржах у кароткае паўночнае лета. А ўладкоўвацца даводзілася на голым месцы, са старымі і дзецьмі на руках, амаль без пасяўнога матэрыялу і бяз досьведу таго, як можна расьціць хлеб на балотах і ў тайзе.

Вось толькі адна гісторыя. Распавядае Гараўцова-Гарноўская Агаф'я Міхайлаўна, родам зь вёскі Гарэлышы Віцебскай акругі: «Надыйшоў 1929 год. У нашай мясцовасьці пачалася спроба арганізацыі калгасаў, і на агульным сходзе сяляне нашай вёскі Гарэлышы прапанавалі бацьку запісацца ў калгас і паказаць прыклад іншым. Бацька быў добра граматны па тым часе і меў аўтарытэт ва ўсёй нашай былой воласьці. Ён адмовіўся запісацца. Вось з гэтага часу і пачалася завязка трагедыі нашай сям'і. Праз некалькі дзён бацьку арыштавала Віцебскае ГПУ, прад'явіўшы яму абвінавачаньне ў зрыве арганізацыі калгасу. Пратрымалі яго ў турме каля двух месяцаў. Прад'явілі бацьку пастанову Віцебскага ГПУ, што ён зь сям'ёй высылаецца ў Сібір на 3 гады. Тэрмін на зборы далі 7 дзён. Адправілі нас да станцыі Багушэўская, а адтуль цягніком да Новасібірску. Новасібірскае ГПУ накіравала нас на пасяленьне ў Калпашаўскі раён. Па прыезьдзе наша сям'я моцна гаравала...

Хутка да нас прыехаў брат Цімафей, дэмабілізаваны з войска датэрмінова. Іншыя браты: Аўрам працаваў у леспрамгасе бугальтарам, Георгій — у Калпашаўскім райспажыўсаюзе таксама бугальтарам, быў жанаты, меў дваіх дзяцей. Цімафей быў інспэктарам акруговага сабесу ў г. Калпашава. Малодшая сястра Ліда вучылася ў Калпашаўскім пэдінстытуце. Пачаўся страшны 37-ы год...»

Велізарнае гора напаткала Агаф'ю Міхайлаўну. У сьнежні 1937 году быў арыштаваны Аўрам, у студзені 1938 — Георгій, Цімафей і сястра Ліда. Пра іх далейшы лёс доўгія гады ў сям'і нічога ня ведалі. Толькі ў 1990 годзе сям'я даведалася праўду пра тое, што ўсе браты 16 лютага 1938 году былі асуджаныя на расстрэл камісіяй НКВД і пракурора СССР і 20 лютага 1938 года былі расстраляныя ва ўнутранай турме НКВД г. Калпашава.

Такую трагічную долю падзялілі ў Калпашаўскім яры да тысячы нашых землякоў.

Масавыя расстрэлы пачаліся ў Калпашаве ў другой палове трыццатых, калі ў мясцовым НКВД сталі фабрыкаваць бязглуздыя, фантастычныя справы «Польскай арганізацыі вайсковай», «паўстанскага цэнтру» і іншых. У часе масавых акцыяў «выяўленьня ворагаў народу» ў Нарымскі акруговы аддзел НКВД на баржах дастаўлялі «ворагаў народу» з Аляксандраўскага, Каргасоцкага, Парабельскага, Калпашаўскага раёнаў.

Што зь сябе ўяўляў будынак аддзелу НКВД? Ён знаходзіўся за 30-40 мэтраў ад берагу ракі Об, акружаны трохмэтровай агароджай пэрыметрам 150х150 мэтраў. Недалёка адміністрацыйнага корпусу НКВД знаходзіўся будынак турмы з шасьцю камэрамі. Тут жа, у будынку турмы, у адной з камэраў выконваліся прысуды «тройкі» УНКВД па Захсібкраі, Асобай нарады, камісіі НКВД і пракурора СССР. Трупы расстраляных паслойна перасыпалі гашанай вапнай (каб лішні раз не закапваць да прыбыцьця чарговай партыі асуджаных) у ямах, выкапаных на двары. Ямы раўнялі зь зямлёй і нічым не пазначалі.

Толькі ў адзін дзень 8 сьнежня 1937 году такім чынам было зьнішчана больш за 200 чалавек. Назаву толькі некалькі ўстаноўленых прозьвішчаў нашых землякоў: Адамскі Браніслаў Генрыхавіч, Бараноўскі Аляксандар Фаміч, Белых Фёдар Яфімавіч, Варанецкі Сьцяпан Вікенцевіч, Галлоўскі Самуіл Авакумавіч, Грышын Іван Паўлавіч, Здановіч Іван Васілевіч, Іваноўскі Язэп Мікалаевіч, Кісель Іван Язэпавіч, Казак Іван Мартынавіч, Калмакова-Асухоўская Ганна Эдуардаўна, Кужэўскі Фёдар Францавіч, Левандоўскі Ўладзімер Мікітавіч, Татыржа Баніфат Адамавіч...

Большасьць ні ў чым не вінаватых грамадзянаў была расстраляная ў Калпашаве ў пэрыяд з 8 траўня 1937 да 4 траўня 1942 году. Паводле дадзеных, атрыманых з матэрыялаў і дакумэнтаў пракуратуры, управы ФСБ РФ Томскай вобласьці, вайсковага трыбуналу Сібірскай акругі, можна дапусьціць, што толькі тут зьнішчылі больш за 900 ураджэнцаў Беларусі.

Колькі ўсяго чалавек расстралялі ў Калпашаве ў самы пік рэпрэсіяў, выявіць ужо немагчыма. Можна меркаваць, што ў дадзеным пахаваньні ёсьць парэшткі 4-6 тысячаў нявінна забітых.

Пасьля вайны будынак акруговага аддзелу НКВД быў зьнесены, і на гэтым месцы ўтварылася пустка.

Мінуў час. Наступ ракі на горад прывёў да таго, што з 1960 году тэрыторыя былога НКВД стала абвальвацца ў Об. Пачалі выяўляцца брацкія магілы расстраляных. Улады занепакоіліся. Пад кіраўніцтвам і зь непасрэдным удзелам прадстаўнікоў спэцыяльнага падразьдзелу КГБ СССР праводзіліся так званыя «буравыя работы» на тэрыторыі, якая раней належала аддзелу НКВД. Першая стадыя хімічнага зьнішчэньня пахаваньня была праведзена ў 1968 годзе.

Тэхналёгія была такая. Бурылі сьвідравіны. Пры выхадзе касьцей бурэньне ўпарадкоўвалася. У сьвірдравіны ўстаўлялі жалезныя трубкі, засыпалі туды рэчыва белага колеру і залівалі вадою з машыннай цыстэрны. Потым кожную сьвідравіну засыпалі грунтам.

Пасьля заканчэньня працы «геолягі» дзень-два «прасавалі» тэрыторыю бульдозэрам, утрамбоўвалі верхні грунт. Рабіў усё гэта спэцыяльны падразьдзел КГБ СССР, прызначаны для зьнішчэньня сьлядоў масавых забойстваў. Аналягічную працу гэты падразьдзел праводзіў у Катыні і іншых месцах масавых расстрэлаў на тэрыторыі былога Савецкага Саюзу ажно да 1985 году.

Надзвычайны выпадак адбыўся вясной 1979 году. Вясна вызначалася вялікай паводкай, і ў выніку апоўзьняў пасыпаліся чалавечыя чарапы й косьці з аголенага масавага пахаваньня. Першаадкрывальнікамі былі дзеці. Яны падбіралі чарапы, гулялі зь імі, бегалі па горадзе з чарапамі на палках, прыносілі іх дадому.

Абвал 30 красавіка агаліў вялізную яму з муміфікаванымі трупамі. Многія зь іх захаваліся выключна добра. Калі чарапы й косьці ператвараліся ў мешаніну пры абвале берагу і адразу ж ішлі на дно, то лёгкія муміфікаваныя парэшткі ўсплылі, і рака несла іх на поўнач на вачах ўсяго гараду, таму што большая частка сёньняшняга Калпашава разьмешчана ніжэй па плыні: там і рачны вакзал, і забудаваны прыватнымі дамамі раён...

Асабліва непрыемная была ашаламляльная сымбалічнасьць таго, што адбывалася. ЯНЫ выходзілі літаральна з-пад зямлі — сотні трупаў зь дзіркай у патыліцы, і ня толькі шкілеты, косьці людзей, а ў вялізнай колькасьці муміфікаваныя целы, якія настолькі добра захаваліся, што некаторых з расстраляных амаль паўстагодзьдзя таму местачкоўцы павезьлі ў морг, прыняўшы за тапельцаў.

Улады спахапіліся не адразу. Усе рыхтаваліся да травеньскіх урачыстасьцяў, а ўжо самі чуткі выклікалі непрыемны асадак. І тады акругу абляцела выразная каманда: «Бандыты, ворагі народу, толькі — у раку. Няхай сабе плывуць». Багром, вяслом, палкай адпіхнуць на быстрыню — нясіся далей, да Нарыму...

Нікому і ў галаву не прыходзіла перапахаваць расстраляных. Кулявыя дзіркі ў чарапах сьведчылі пра тое, што з гэтымі людзьмі ўжо аднойчы абыйшліся надзвычай жорстка.

У Калпашаве распачалася вайна. Двухтыднёвая бітва жывых зь мёртвымі. Мэтадычна, нясьпешна, на будзённым фоне правінцыйнага мястэчка, дзень за днём, ноч за ноччу...

Да трэцяга траўня доступ да пахаваньня пільна не ахоўваўся. І многія местачкоўцы прыходзілі папросту зь цікаўнасьці. Але было і іншае — самае, магчыма, страшнае. Да разгарнутай магілы йшлі родзічы тых, хто бясьсьледна прапаў у засьценках Калпашаўскага НКВД, а іх ў трыццацітысячным райцэнтры тады яшчэ было нямала: дзеці й жонкі, браты й сёстры. Многім зь іх здавалася, што сярод складзеных штабэлямі трупаў яны пазнаюць сваіх блізкіх.

Калпашава перажывала цяжкія дні, Томск жа знаходзіўся ў напружаным разважаньні. Сыгнал трывогі даляцеў да Масквы...

Трэцяга траўня сіламі будаўнічага батальёну магіла была абнесена высокай агароджай з надпісам «САНІТАРНАЯ ЗОНА». Зьявілася ахова. Пахаваньне вырашылі змыць у раку. Тыдзень праводзіліся падрыхтоўчыя работы, а да 10 траўня ў Калпашава прыбылі двухтысячамоцныя буксіры. Іх паставілі кармой да берагу, намёртва замацаваўшы лябёдкай.

Капітан буксіра ОТ-375 В.Чарапанаў узгадваў: «... Адбойнай хваляй пачалі мыць бераг. Мылі гадзіны дзьве. Спачатку падалі косткі. Калі зьмесьціва ямы абвалілася, праявіліся цёмныя прастакутнікі. Трупы зь ямы сталі падаць у ваду. Мерзлы верхні слой зямлі абвальваўся большымі глыбамі пры размываньні ніжняга талага пласта грунту. Мылі з 11-га да 15-га кругласуткава. Было шмат ямаў, колькасьць назваць не магу. Трупы былі цэлыя, рознай велічыні. Бачыў на іх ружова-белую бялізну. Трупы плавалі, кагэбэшнікі фатаграфавалі. Нам забаранілі выходзіць на радыёсувязь. У гэты час на беразе бурылі сьвідравіны, шукалі нявыяўленыя пахаваньні. Цеплаход амаль увесь увайшоў у бераг. Смурод быў жахлівы, але мы людзі паднявольныя: рабілі, што загадаюць. Раней я не расказваў пра гэта: баяўся. Бо гэта ж КГБ!»

У гэты час на Обі, акрамя суднаў, што размывалі бераг, знаходзіліся яшчэ катэры й чаўны — для таго, каб перахопліваць трупы на вадзе. Тое, як працавалі катэры, магло бачыць усё мястэчка. Трупы, якія плылі па Обі, «добраахвотнікі» вылоўлівалі баграмі, чаплялі ім да поясу цэглу, мэталічныя балванкі — тапілі ў рацэ. Тых, якія ўпіраліся, ня йшлі на дно, імкнуліся ў апошнія ўцёкі да Ледавітага акіяну, — тых секлі на кавалкі вёсламі. Дзень за днём, ноч за ноччу. Некаторыя целы ўсё ж былі прапушчаны, іх бачылі потым у Прахоркіне і Нованікольскім, за сотні кілямэтраў ўніз па рэчышчы.

Горад Калпашава перажываў цяжкія, ні на што не падобныя дні. Гэта былі «антысавецкія» трупы. У рэальнасьці, як яе разумелі тады, гэтых трупаў не было, не павінна было быць. Памяць пра іх пасьпяхова выветрывалася са сьвядомасьці некалькіх пакаленьняў. Але ў Калпашаве нейкая неспасьціжная для ўладаў сіла супраціўлялася гэтаму, устала насуперак, быццам сама зямля, зьняважаная, засеяная неаплаканымі касьцьмі, аказалася больш чалавечная за людзей.

Людзтва ведала адкрытыя зьверствы, крывавыя войны, масавыя забойствы і страшныя катаваньні, але любым злачынствам ва ўсе часы спадарожнічалі нейкія асаблівыя гістарычныя абставіны і адгаворкі пра вышэйшую мэтазгоднасьць, якімі апраўдвалі свае дзеяньні палітыкі і каты. У Калпашаве гэтага не было. Тут свае забівалі сваіх, ужо забітых аднойчы, так бязьлітасна, як калісьці жывых. Зусім бессэнсоўна й цынічна.

І ўсё ж «Калпашаўская справа» атрымала ход... Дзіўная гэтая крымінальная справа, незвычайная. Сьледзтва было даручана пракурору Новасібірскай вобласьці. Гэта была першая спроба прымусовага дазнаньня ў справе аб злачынствах дзяржавы супраць народу і злачынным іх утойваньні.

Я ня маю мэты пералічваць паймённа ўсіх калпашаўскіх катаў — няўдзячны гэты занятак. Няхай сумленьне будзе ім судзьдзёй... Але ёсьць людзі, якім ня ўсё адно, што адбылося ў тыя гады. Скажам, наш зямляк Васіль Ханевіч з Томску склаў мартыралёг на загінулых з аднагоадзінага сібірскага сяла Беласток, дзе жылі перасяленцы з Гарадзенскай, Віцебскай і Віленскай губэрняў, беларусы і палякі. Звозілі зь Беластоку людзей у Калпашава, а там іх чэкісты забівалі, выконваючы спушчаную згары разнарадку. Вось некалькі імёнаў тых, каго з нашых землякоў спачатку забівалі, а потым патапілі:

Артыш Восіп Восіпавіч, Артыш Баляслаў Восіпавіч, Артыш Іван Іванавіч, Артымовіч Адам Язэпавіч...

А можа быць, на якую-небудзь іншую літару?

Маркіш Пятро Фадзеевіч, Маркіш Мікалай Ігнатавіч, Мазюк Іпаліт Міхайлавіч, Мазюк Антон Міхайлавіч...

І далей можна працягваць. Усе гэтыя людзі былі расстраляныя ў Калпашаве ў адзін дзень — 14 траўня 1938 году. А ўсяго ў гэты дзень па адной справе зь беластоцкімі забілі 47 чалавек. Калі падобны сьпіс па невядомай вёсцы перад вачыма, мімаволі ўзьнікае думка: другая вайна, але без абяліскаў. Вялікая Айчынная трагедыя.

У студзені 1991 года «Калпашаўская справа» перакачавала з Новасібірску ў Маскву, прайшла пракуратуры РСФСР, Саюзу, Галоўную вайсковую, каб у выніку вярнуцца ў Новасібірск, але — у пракуратуру Сібірскай вайсковай акругі. Толькі пасьля гэтага Новасібірская ФСБ назвала першых 144 растраляных у Калпашаве!

У сакавіку 1993 году справа была закрыта з-за даўнасьці гадоў і «адсутнасьці складу злачынства ў дзеяньнях службовых асобаў».

Падвядзем жа й мы сваю рысу пад хлусьнёю мінулых гадоў. Справа была для маскоўскіх і томскіх уладаў звыклая і простая. Аднойчы забітыя зноў выйшлі наверх, і патрабаваўся новы прысуд, каб спыніць вылазку «клясавага праціўніка». Патрабавалася пацьверджаньне старога прысуду. Ніхто, акрамя некалькіх маўклівых людзей, ня ведае сёньня, у якім кабінэце і пад чыім старшынствам зьбіраўся новы склад Асобай нарады.

**Ігар Кузьняцоў**

*Томск — Менск*

Прыватнасьці

Ганна Матусэвіч

# Дзёньнік без канца

20.07. Здаецца, я пачынаю разумець сябе... Усё жыцьцё я шукаю Майстра. Не было Яго сярод маіх жаніхоў. Спрабавала падштурхнуць мужа, сына, урэшце, сама стала нешта крэмзаць — а ўсё ня тое. Здагадваюся, што ніколі не знайду, бо Яго няма на сьвеце, і я мушу ствараць Яго сама, ляпіць сваімі рукамі, як Храм чалавечы...

21.07. Учора мы сямейным квінтэтам зьезьдзілі на роварах у Строчыцу. Адмахалі ў два бакі 70 км з гакам. Вераніка ўсё ж малая для такіх падарожжаў, і я надта стамілася ўсю дарогу праганяць нуду й нэндзу зь ейнага дзіцячага тварыка. Але ж Яна сама захацела ехаць і трэба даць чалавеку магчымасьць, бо такім чынам разьвіваецца жыцьцё.

Вераніка кашэчым хвастом падаўжала нашую і без таго працяглую працэсію. У выніку да Строчыцы мы дабраліся ў сьвіныя галасы. Гаспадары музэю не віталі нас на парозе і складвалася ўражаньне нежыцьцёвасьці гэтага Боскага месца.

Так, яно было прывабнае, як і на ўсёй нашай Беларусі. І мы самі вінаватыя, што нішчым жыцьцё, маючы такое хараство! Няўжо праўда, што душы ня хочуць пасяляцца на зжытых месцах, і гэта падставовая прычына нізкай нараджальнасьці на маёй Бацькаўшчыне?

Пры ўваходзе (а можа выхадзе) нас сустрэў жалобны памятны знак, які паведамляў, што «на этом месте от рук убийцы погибла Воловик Анна Казимировна 6-XI-90 г.» (Пасьля мы даведаліся, што забойца — маньяк.) І гэты знак — як трагічны сымбаль музэю, Беларусі. Я не змагла ўжо прагнаць гнятлівае ўражаньне ад усяго ўбачанага далей. Міжволі напрошвалася нявыгаднае параўнаньне з Латвіяй. У свой час я была ў Сігулдзе. Паказалі мне там пячору, дзе загінула ў ? стагодзьдзі маладая дзяўчына ў выніку гарачага але няроўнага каханьня. Бачыла й магілу дзяўчыны — Турайдзкай Розы. Латышы ўмелі падаць трагічнае здарэньне, як прыгожую легенду, якая аздабляе ўвесь паркавы ансамбаль Сігулды.

Нашых дзяцей пацешыў бадай што толькі ветраны млын, у сярэдзіну якога яны злазілі і са шчырым захапленьнем абглядзелі ўсе ягоныя цацкі.

Старое гумно з саламянай страхой, разнасьцежанае з двух бакоў, стаіць на скразьняку, як прахадны двор Беларусі. Таксама трагічны сымбаль. Драўляная царква на блакітным тле неба. Яна жывая! Шыльда апавяшчае, што тут адбываюцца багаслужбы ў нядзелі аб 11-ай гадзіне. Мне захацелася замацаваць адзінае пазытыўнае пачуцьцё, і я ўжо выправілася была ў шпацыр вакол царквы... Але тут пачуўся брэх сабак і зьявіліся ахоўнікі — два хлопцы ў камуфляжы, пры зброі. Яны былі ветлівыя й простыя ў абыходжаньні з намі, і ўсё ж іхняя кепская расейская мова была чужая для нас...

Мы нідзе не адчуваем сябе поўнымі гаспадарамі. Можа таму й выбралі ўсечаную форму звароту — спадар?

22.07. Як сыты не спагадае галоднаму, так і мае вочы, перагледжаныя ўсім убачаным, адмаўляюцца глядзець і мае вушы, перaслуханыя ўсім пачутым, ня хочуць болей чуць. І толькі ў мітусьлівых снах я некуды сьпяшаюся, спазьняюся, блукаю... І ўдзень глыбокі кароткі сон, як наркоз, здужвае маё цела. І я не спрачаюся. Адпускаю сваю перанасычаную ўражаньнямі, абыякавую да зямнога жыцьця душу на волю. Можа ёй трэба некаму дапамагчы...

23.07. Міколка прынёс мне свае малюнкі: «Вось гэта — наш сьцяг. А гэта — Лукашэнкаў». Ах, мой любы хлопчык! Грэйся ля мамінага бачка да 7,5 гадоў, каб падужэў і змог даць здаравенную поўху ілжэнастаўніку, які пачне ўбіваць у тваю сьветлую галоўку юдаву навуку.

24.07. Было дзіўна й радасна бачыць старэчы, заўсёды суворы бацькаў твар, на якім сёньня жылі наіўнае дзіцячае замілаваньне й вялікая таямніца. Бацька павёў мяне зь дзецьмі на неруш — брусьнічную палянку. У маім дзяцінстве, памятаю, мы дзежкамі ставілі гэтыя каштоўныя ягады на зіму. Цяпер брусьніцы перaвяліся ў нашым лесе. І вось ён, цуд: паўстаньне зь мёртвых майго маленства й бацькавай маладосьці. Брусьніцы ўраўнаважвалі сваёй нясьпеласьцю, юнацкай чырвонабокай зялянінай усіх нас у гэтае імгненьне: скупога на пачуцьці бацьку, ягоную ўразьлівую дачку і трох легкадумных унукаў.

25.07. Хочацца нечага вясёленькага й страшненькага...

26.07. Калі пройдзеш раненька басанож па сьцюдзёнай расе — адчуеш сваю перавагу над тымі, хто сядзіць у чаравіках на цёплых крэслах. Перавагу бяз зброі й Слова. Бо зброяй, як Слова, становіцца Сьцюдзёная Крывіцкая Раса.

27.07. Ракуцёўшчына летась для мяне сталася апошнім выпрабаваньнем, пасьля якога мне зьявіўся Максім, як мабыць зьяўляўся ў дзень Дабравешчаньня Сьветлы Анёл Дзеве Марыі.

Мой радасны й лёгкі цяжар — ад Максіма. А сёлета ўжо Ракуцёўшчына для мяне — традыцыя, у якой стаптаная Першасная Раса. І ўсё ж, на хвілінку пазбаўленая штодзённага грузу, я вынесла адтуль адно сьвяточнае ўражаньне:

«Як добра маім рукам, Калі яны нічога не нясуць — Можна лётаць».



# Стары гарадзкі краявід




Ці ведаеце Вы ў Беларусі хоць адзін пляц, прызначаны не адно толькі для транспартнае разьвязкі? Нават на Круглай плошчы ў Менску, пры мэмарыяле апошняй вайны, чалавечае жыцьцё працякае пад зямлёю, а на зямлі — машыннае...

Са структуры сучасных беларускіх гарадоў выпаў пляц — у традыцыйным эўрапейскім яго разуменьні — пляц, як месца дачыненьняў людзей, зьнітаваных адзінай культурнай, эканамічнай і духовай прасторай. Колісь на нашых гарадзкіх пляцах людзі ладзілі фэсты, кірмашы, парады, чалавек шукаў іншага чалавека. Вечарамі з гаўбца ратушы граў гарадзкі аркестар. На самім пляцы прызначаліся спатканьні, абмяркоўваліся навіны, абвяшчаліся маніфэсты. Ад пляцу да пляцу вялі вуліцы, на якіх бруіла жыцьцё людзей...

Ці пазнаеце Вы гэты пляц і гэты горад? Гэта чарговая, трэцяя, фотазагадка конкурсу «Стары гарадзкі краявід». Пасьля публікацыі пяці загадак чакаем Вашых адказаў.

**Сяргей Харэўскі**

Кампутар

# Беларусь віртуальная,

## *альбо спроба знайсьці Радзіму там, дзе яе быць не павінна*

Працяг са старонкі 1.

Няма нават адсылкі да іншых хоўм-пэйджаў і сэрвэраў. Гэткі аазыс у пустэльні. Мінімум інфармацыі і, адпаведна, толку. Фантазія ў бел. акадэмікаў, як высьветлілася, небагатая. Але ў «Сусьветнай Павуціне» мне пашанцавала знайсьці толькі гэтую «ўласнабеларускую» старонку.

Як бы там ні было, сякія-такія хоўм-пэйджы, зьвязаныя зь Беларусяй, існуюць на «Сусьветнай Павуціне» і безь непасрэднай падвязкі да палітычнай геаграфіі.



http://freedom.ncsa.uiuc.edu/~zelenko/belarus/Belarus.html

Гэты хоўм-пэйдж з рэпрэзэнтацыяй нашай краіны за яе межамі разьлічаны на зусім недасьведчанага чалавека. Патрапіўшы ў гэты разьдзел, можна выбраць тую падтэму, якая зацікавіла. Напрыклад: Гісторыя Беларусі, Беларускія мапы, Незалежнасьць, Ангельска-беларускі й беларуска-ангельскі слоўнік, Культура, Чарнобыль і г.д. Гэта вельмі вялікі хоўм-пэйдж. Іншая справа, што разьдзел культуры арыентаваны ў асноўным на традыцыйную беларускую культуру, а здагадацца, што і як адбываецца ў нашай літаратуры, музыцы, мастацтве сёньня, абсалютна немагчыма. Можа быць, гаспадары гэтага хоўм-пэйджа й ня ставілі перад сабою такой мэты, але на сёньня ў «Сусьветнай Павуціне» гэта бадай адзіная прыстойная беларуская старонка, таму можна было б зрабіць яе ўнівэрсальнай. Анталёгія беларускай паэзіі складзена з густам, але аднабакова. Традыцыйная тройка — Купала, Колас, Багдановіч ды эмігранцкія паэты на чале з Ларысай Геніюш. Зрэшты, неабдымнае абняць немагчыма. Верш «Зорка Вэнэра» бясспрэчна належыць пяру Максіма Багдановіча. Навукай даказана. Таму няма чаго ставіць пасьля паэтава прозьвішча пытальнік.

Некаторыя з падтэмаў выводзяць на іншыя хоўм-пэйджы. Ёсьць там і Віртуальны Гід па Беларусі. Ягоны адрас:

http://www.jura.uni-sb.de/~serko/heritage/zaslauje.html

Варта дадаць, што хоўм-пэйдж «Bielarus» дастаткова папулярны ў сусьветнай інфармацыйнай прасторы. За апошні год да яго зьвярталіся блізу 19 тысяч разоў. Не Playboy, вядома, але...

Пару тыдняў таму на хоўм-пэйджы выданьня «Biplans» (якое цяжка назваць выданьнем, бо гэты часопіс, які займаецца праблемамі альтэрнатыўнай культуры, існуе толькі ў інтэрнэтаўскім варыянце) я натыкнуўся на ананімны (!) раман «Рэмба-VIII або Вызваленьне Эўропы». Гэта палітычны трылер на тэму беларускай сучаснасьці. Аўтар выдатна валодае беларускай, а дакладней, менскай фактурай, і, хутчэй за ўсё, сам мянчук або часта й падоўгу бывае ў Менску.

Сюжэт наступны... Рэмба, паслухаўшы параду свайго сябрука — супэрзоркі НХЛ беларускага паходжаньня У.Грэцкі, вырашыў зрабіць падарожжа ў Эўропу. І пачаў сваё знаёмства зь Беларусі. Бо, са словаў хакеіста, беларуская кухня вельмі арыгінальная, сэрвіс ня самы горшы, ёсьць некранутыя чалавекам куткі прыроды і г.д.

Амэрыканскі грамадзянін Рэмба прызямліўся ў Менскім аэрапорце сёлета 25 красавіка. Пасяліўся ў гатэлі «Юбілейны», а назаўтра выйшаў прагуляцца па горадзе. Заўважце, ўсё гэта адбывалася 26-га. Калі амэрыканскі супэрмэн крочыў па Нямізе, то выпадкова патрапіў у натоўп, абыйсьці які ў яго не атрымалася, зрэшты як і ўхіліцца ад амонаўскіх дубінак. Толькі пасьля таго, як атрымаў дубінкаю па галаве, Рэмба прыгадаў, што ён амэрыканскі супэрмэн, а супэрмэны, як вядома, проста так не здаюцца. Словам, міліцыянту давялося пляваццa толькі што пачыненымі ў дантыста зубамі.

Удалыя беларускія амонаўцы ўсё ж змаглі «павінціць» ня менш удалага амэрыканца й адвезьці яго ў пастарунак. Беларускі лейтэнанцік Жабанцоў доўга глядзеў у пашпарт грамадзяніна ЗША, шукаючы там «пятую графу». Такіх зьвестак у амэрыканскім пашпарце няма, таму міліцыянт на падставе прозьвішча запісаў амэрыканскага турыста ў шэрагі заморскіх украінскіх нацыяналістаў і агентаў ЦРУ. Рэмба быў пасаджаны ў сьледчы ізалятар. Там змагар за справядлівасьць амэрыканскага разьліву пазнаёміўся зь беларускім студэнцікам Андрусікам Грынявіцкім (?), нашчадкам Ігната Грынявіцкага і Касьцюшкі, які зусім нядрэнна валодае ангельскай мовай. Ён і правёў палітінфармацыю для замежнага госьця, растлумачыў яму што да чаго й куды ён трапіў. Гэтая інфармацыя ня ўзрадавала героя. Яшчэ больш яго прышыбла тое, што яму не давалі магчымасьці зьвязацца з амэрыканскім пасольствам і шанцаў на вызваленьне з-пад варты да суда ў яго не было. Але пэрспэктыва быць засуджаным самым справядлівым судом у сьвеце не зламіла супэрмэна. Іначай, які тады ён к чорту супэрмэн?

Рэмба вырашыў адказаць ударам на ўдар, а дакладней, уцячы са сьледчага ізалятара. Уцячы яму аднаму не выпадала, бо патрэбны быў напарнік, які б арыентаваўся ў Менску і мог дапамагчы дабрацца да пасольства ЗША. У ролі праваднікa выступіў сакамэрнік — нашчадак беларускіх рэвалюцыянэраў. Ролю сваю ён згуляў цудоўна. Бо пасьля пасьпяховага абяззбройваньня аховы і ўцёкаў хлопцы падаліся ня ў бок амэрыканскай мяжы, а да рэзыдэнцыі Рэзыдэнта, і ня ўдвух, а разам з часткай баявога атрада Белага Легіёну. Другая палова легіёншчыкаў пайшла захопліваць БТ. Бойкі, страляніна, арышт дыктатара. Перадача ўсёй улады ў рукі перaляканага Вярхоўнага Савету. Праз дзень пачынаецца фармаваньне новага ўраду Рэспублікі Беларусі, дзе Рэмбу прапануюць пасаду міністра абароны. Але сьціплы амэрыканец ветліва адмаўляецца, спасылаючыся на выключную занятасьць.

Вось такі тэкст. Ягоны аб'ём 80 старонак. Існуе ён у ангельскім і расейскім варыянтах. Дасьціпна й з хэпі-эндам. Толькі вось я губляюся ў здагадках: ці то насамрэч існуе мадэляваньне сытуацыі пры дапамозе Слова Друкаванага, ці то расейскі дэпутат Ілюхін часта лазіць па «Сусьветнай Павуціне» й занадта сур'ёзна ўспрымае ўсё тое, што прачытвае?..

Беларусь Віртуальная на сёньняшні дзень, калі Нашашматпакутнаябацькаўшчына шырока крочыць да татальнай урлаганізацыі ці не ва ўсіх праявах свайго зьнешняга ды ўнутранага жыцьця, існаваньне такой старонкі пакідае надзею, што Беларушчыну саму па сабе ўжо немагчыма сьцерці, як непатрэбны файл з жорсткага дыску.

**Андранік Антанян**

## Паштовая скрынка

**Натальлі С. зь Менску.** На тэму дзяржаўнага гімну «Наша Ніва» пісала неаднойчы, у прыватнасьці пра тое, што галоўная вартасьць гімну — ня музыка і словы, а гістарычнасьць. У гэтым сэнсе адназначны гімн незалежнае Беларусі — «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Радок «У крывавых муках мы народзім жыцьцё Рэспублікі сваёй», які выклікаў найбольшы скепсіс у аналітыкаў, цалкам апраўдаўся мінулай вясною. Што да бэсэсэраўскага гімну, то ў яго сапраўды прыгожая мэлёдыя, але гэта матыў прыгнёту, песьня прыгнобленага народу, там няма ніводнага адкрытага гуку, усё вытрымана ў паўтанах. Нездарма з усіх прапанаваных да яго новых тэкстаў ніводзін так і не прыжыўся, бо музыка маршу паняволеных ня можа быць падставай для гімну незалежнай краіны.

**Петрусю і Ляксею з Новалукомля.** У справе ТВЛ зьвяртайцеся на адрас: 211440 Навапалацак-11, п/с 36, ТВЛ

**Уладзімеру Л. зь Берасьця.** Дзякуй за тэкст, але ён не зусім наш. Рынак фармуецца ва ўсіх сфэрах, дзе ёсьць попыт, і першыя крокі рынку, як правіла, набываюць перакошаны, карыкатурны выгляд. З часам усё стабілізуецца, і ні ў кога ні з чым ня будзе праблем. Абы грошы. Што тычыцца «НН», то мы імкнемся не пісаць пра выдаткі фармаваньня рынку, бо гэта непазьбежнасьць. Нас цікавіць культуралягічны, нацыянальны, этычны аспэкты жыцьця, у тым ліку і ў той сфэры, на якую зьвярнула Вашую ўвагу старонка дробных абвестак у «Życiu Warszawy».

© НАША НІВА Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая Наклад 5100 Нумар падпісаны ў друк 19°°, 4/8/1996. Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 4324 Кошт свабодны